АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 САКАВІКА - 2 КРАСАВІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ

№13 (153)

АСТРАВЕЦ

## Прыехалі. Перанялі вопыт. Не перастаюць здзіўляцца

Мясцовае райспажыўтаварыства - адно з лепшых у краіне. Днямі сюды завітала дэлегацыя з Малдовы.

Ім паказалі крамы, прадукцыю камбіната кааператыўнай прамысловасці, пазнаёмілі з умовамі працы і будоўлямі разнастайных аб'ектаў.

Маладаване былі здзіўленыя тым, што кіраўніку Астравецкага райспажыўтаварыства **Юрый Кацнельсон** змог наладзіць работу прадпрыемства нават у сітуацыі, калі ва ўбытак даводзіцца абслугоўваць аддаленыя вясковыя крамы. Прынамсі, у Малдове ўжо забыліся пра існаванне спажыўкааперацыі і ўвесь гандаль перададзены ў прыватную ўласнасць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МІНСК

## Новы аўтамат

На заводзе "Агат" запушчаная ў серыю новая мадэль універсальнага тэлефона-аўтамата, які працуе на магнітных картах.

З гэтых аўтаматаў можна будзе патэлефанаваць па горадзе, рэспубліцы, звязацца з блізкім і далёкім замежжам. Хутка такія тэлефоны з'явяцца і на вузлах сувязі нашага рэгіёна.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Магілёў - Гродна (праз Валожын)

Новы міжгародні маршрут пралёг праз горад.

На мясцовым аўтавакзале цяпер спыняецца аўтобус Магілёў-Гродна. Адразу ў дзве розныя вобласці адсюль могуць трапіць жыхары Міншчыны.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

АШМЯНЫ

## Радуюцца каваманы

На мясцовым АТ "Ашмянская кавава-цыкорная фабрыка" неўзабаве зоймуцца выпускам новай прадукцыі.

Тамтэйшыя каваманы, як зазначыў дырэктар таварыства **Уладзіслаў Швабовіч**, змогуць адчуць асалоду ад кавы "Эцюд" і "Міраж". У планах прадпрыемства таксама выпуск яшчэ чатырох відаў кававых напіткаў. Застанецца толькі ласавацца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Становішча застаецца без выхаду. На балкон

*У №11 у "РГ" была змешчана інфармацыя "Становішча без выхаду" - аб доме №74 па Вялікім Гасцінцы ў Маладзечне, які капітальна рамантуецца 2 гады.*

25 сакавіка рэдактару газеты патэлефанаваў абураны мужчына, які патрабаваў прыбыць да яго ў кабінет "да абеду", а ў іншым выпадку "на паклёпніцкую" газету ён напіша пракурору і зробіць так, каб "Рэгіянальную" выселілі з арандуемага памяшкання.

Пасля ўсё ж мы змаглі да суразмоўцы даведацца, што ён працуе ў "Камунальніку" і працуе там намеснікам генеральнага дырэктара. І ўсе яго ў Маладзечне ведаюць, і завуць яго **Станіслаў Баляслававіч**. Прозвішча-- **Васілеўскі**. І што ўвесь той газетны матэрыял -- паклёпніцкі. Праўда, згаданы дом сапраўды рамантуецца 2 гады. Праўда, рамонт яшчэ не завершаны. Праўда, зрабілі балконы, але без выхадаў. Яны толькі ў плане. На рамонт не хапае грошай. А 15 снежня, калі "Камунальнік" пачаў перакрываць дах, не восень, як напісала "РГ", а зіма. Хаця і тут можна яшчэ паспрачацца.

Убачыць жа 80 сем'яў з таго пакрыўджанага дома, якія зіму правялі пад трыма коўдрамі, у сваім кабінеце Станіляў Баляславіч не захацеў. Мабыць, таму, што ягоным абяцанкам адраманатаваць злашчасны дом ужо ніхто не паверыць. Канцакраю рамонту не відно.

Хаця планы, як сцвярджае пан Васілеўскі, ёсць. Але ж чалавеку не планы патрэбныя, а нармальнае жыллё. Ці не так, шаноўны Станіслаў Баляслававіч?

*З павагай,*
*Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар "РГ".*

## Прайшоў конкурс сярод прыгажунь-школьніц
# Вераніка - Прыгажуня-98. Як і яе сяброўкі



Вераніка Ігнаценка - адна з Прыгажунь.
ФОТА ЯЎГЕНА СТЭЛЬМАХА.

**МАЛАДЗЕЧНА.** 18-19 сакавіка ў СШ №10 прайшоў веснавы конкурс "Прыгажуня-98", у якім узялі ўдзел школьніцы.

Акрамя сваёй прыгажосці, дзяўчатам трэба было прадэманстраваць таленты і кемлівасць. Конкурс праходзіў у пяць этапаў. І - візітка, ІІ - вобраз маёй мары, ІІІ - інтэлектуальны, IV - рэклама, V - танец. Паміж этапамі публіку забаўляла бальная студыя "Грацыя" беларускай гімназіі пад кіраўніцтвам **Дзмітрыя Хаўроніна**.

Прызы — мяккія цацкі, гадзіннікі і іншыя былі прадстаўлены малым прадпрыемствам **"Мікст"**. А кароны ручной работы выканала **Ірына Драмлюк**.

Ва ўзроставай катэгорыі ад 10 да 12 год пераможцамі сталі **Юля Шахно** (СШ №11, 6 кл.), **Таня Варанецкая** (СШ №5, 7 кл.), **Надзя Каралёва** (Цэнтр пазашкольнай работы, 6 кл.). Ад 12 да 15 год- **Вераніка Ігнаценка** (СШ №10, 7 кл.), **Таня Лутава** (СШ №11, 7 кл.), **Каця Акульская** (СШ №2, 10 кл.).

Акрамя памятных падарункаў усе ўдзельніцы конкурсу наведалі кафэ "Ронда", дзе мелі бясплатны вечар.

*Аляксандра.*

## СЁННЯ – праграма ТНТ на наступны тыдзень. ТВ-ЦЭНТР на 27 - 29 сакавіка.

## Падпішыцеся на "РГ"

Калі вы яшчэ не падпіса-ліся на нашу газету, абавязкова завітайце на пошту. Не адкладвайце гэта на заўтра.

Падпіска каштуе танней, чым купляць у розніцу.




НА ЛЕТНІ ЧАС

## Не праспі!

Пастановай Кабінета Міністраў Беларусі 29 сакавіка 1998 года ў 2 гадзіны будзе ажыццёўлены пераход на летні час пераводам стрэлак гадзіннікаў на адну гадзіну наперад.

*Аддзел інфармацыі.*

## Тэатральны фестываль перастае быць толькі маладзечанскім
# "Сакавіца" пускае парасткі



***Сёлета, у пяты год правядзення рэспубліканскага тэатральнага фестывалю "Маладзечанская сакавіца", ён упершыню пашырыў сваю геаграфію, заняўшы падмосткі вілейскага Дома культуры. Тут 21 і 22 сакавіка Дзяржаўным акадэмічным рускім драмтэатрам імя Горкага ставіліся "У прыцемках" Аляксея Дударава і "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы.***

— Ініцыятыва пашырэння геаграфіі,— гаворыць карэспандэнту "РГ" народны артыст СССР **Расціслаў Янкоўскі**, — зыходзіла ад нас. Мэр Вілейкі падтрымаў ідэю. Для тэатра тут больш магчымасцяў, чым у Мала-дзечне, дзе сцэна дазваляе паставіць толькі камерныя спектаклі. Мы прапанавалі свой удзел у "Сакавіцы", але ў Вілейцы. Маладзечанцы гэта сустрэлі крыху раўніва. Але не думаю, каб нехта ад таго прайграў. Ды і глядач вілейскі не спешчаны тэатральнымі гастролямі.

Абяцанне галоўнага рэжысёра тэатра **Барыса Луцэнкі** прыязджаць дзеля выступленняў у Вілейку штомесяц, хутчэй за ўсё, было выклікана эйфарыяй ад цеплыні прыёму правінцыяльным гледачом, але ў кожным разе, спадзяванні на больш шчыльныя і рэгулярныя кантакты з'явіліся і ў вілейчан, і ў іхніх гасцей. А што да адзінай прэтэнзіі артыстаў - благога асвятлення сцэны - то гэты хіб выправіць не праблема.

У фестывальнай праграме акрамя спектакляў, была і сустрэча з горкаўцамі ў цёплай гасцёўні -- выставачнай зале гісторыка-краязнаўчага музея. Магчыма, менавіта кантакты з гледачом па-за тэатральнымі сцэнамі паспрыялі тым прыязным стасункам, што ўсталяваліся на фестывалі ў Вілейцы.

*Мікола ГАЙДУК.*

*Працяг тэмы на 3-й стар.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-12.*

## Амерыканец мае права

Галасуюць амерыканцы ад 18 год, але за, да прыкладу, за забойства могуць пазбавіць гэтага права. Хаця пазней могуць і вярнуць.

І вар'ятам галасаваць забаронена, але "для гэтага" неабходна быць у шпіталі і мець усе даведкі з пацверджаннем вар'яцтва.

Піва піць таксама з 18 год дазвалялі, хаця ў большасці іншых штатаў - з 21 года. Федэралы не настойвалі, а проста падкінулі штату грошай на будаўніцтва дарог і сказалі, што выдзеляць яшчэ столькі ж, калі ў Аёве падвысяць "піўную планку".

Дарэчы, у машыне забараняецца мець адкаркаваную бутэльку са спіртным. Лічыцца, што гэта правакуе вадзіцеля на ўжыванне алкаголю. Хаця з рэстарана пасля пары піва ці добрага стакана віна за руль садзяцца спакойна. Наогул жа, большасць амерыканцаў моцныя спіртныя напіткі не ўжывае - звычайна піва ці сухое віно. Кіношныя стэрэатыпы (калі "янкі" пачынаюць піць віскі ад раніцы) рэаліям адпавядаюць не вельмі. Таму і ў мясцовай партыі аматараў піва, каб тут такая была, налічвалася б надта шмат членаў.

Трэба зазначыць, што моладзь ва ўзросце ад 18 да 25 год здзяйсняе найбольшую колькасць злачынстваў і правапарушэнняў. У 30 год людзі пачынаюць нешта разумець у жыцці або проста стамляюцца.

Закон тут забараняе нават ускрываць чужыя паштовыя скрынкі.

А вось яшчэ прыклады. Пастанавіла некалі мэрыя Дэ Мойна, што смецце можна выкідаць толькі на пэўнай гарадской звалцы (у залежнасці ад месца пражывання). Абурыліся людзі і ў судзе даказалі свае прэтэнзіі: у іх павінна быць права выбару. Нават пры выкіданні смецця.

Вітрына ў горадзе падала, дык прахожыя літаральна кláліся пад яе - каб атрымаць уражвальныя сумы грошай па страхоўцы, ад магазіна.

Поўная жанчына прыйшла ў кінатэатр і не змагла сесці ў крэсла. Гледачы пасмяяліся з яе. Тая абурылася і падала ў суд на кінатэатр. Вердыкт: установа абавязаная выплаціць наведвальніцы кампенсацыю за маральны ўрон, бо не забяспечыла яе права паглядзець фільм.

Сутыкнуліся дзве машыны. Праз некаторы час вадзіцель адной падае іск: жонка пасля аварыі страціла смак да пацалункаў. Выйграў.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

СЮРПРЫЗЫ ПРЫРОДЫ

## Пятніца, трынаццатае

**МЯДЗЕЛ**. У мінулую пятніцу, 13 сакавіка, небывалы снегапад так засыпаў машыну жыхара Вузлы, што гаспадару давялося ўзяцца за рыдлёўку ды венік, каб адкапаць свой транспарт. Такі вось сюрпрыз паднесла прырода ў першыя веснавыя дні.

***Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ, фота аўтара.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 18.03 | 25.03 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | адсут. | **80** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 265 | **265** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | адсут. | **76,4** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 42 | **42** |
| Рыс | 1 кг | 25 | **23,1** |
| Цукар | 1 кг | 25,8 | **25,8** |
| Грэчка | 1 кг | 27 | **26,5** |
| Алей | 1 л | 60 | **53** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 24,9 | **28,5** |
| Маянэз | 250 г | 15,6 | **16** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 65 | **65** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 23 | **22** |
| Соўс там. "Мінскі" | 0,5 л | 22,5 | **22** |
| Лімоны | 1кг | 60 | **60,2** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 35 | **30** |
| Масла | 1 кг | 70 | **75** |
| Тварог | 1 кг | 35 | **35** |
| Малако | 1 л | 7 | **8** |
| Бульба | вядро | 70 | **70** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 25 | **30** |

СВЕТЛАГОРСКІ СІНДРОМ

# У Вілейцы зноў затрымалі наркаманаў

***У пяціпавярхоўку ля завода "Зеніт" часцяком наведвалася моладзь. І тады на лесвічнай пляцоўцы падазрона пахла растваральнікам. Днямі супрацоўнікі міліцыі наведалі гэтае "месца грамадскага карыстання". На просьбу адчыніць дзверы ніхто не адрэагаваў. Затое з акна кватэры на 3 паверсе малады чалавек "салдацікам" сігануў уніз. За ім паляцелі два цэлафанавыя пакеты.***

"Парашутыста" затрымалі на месцы пасадкі. У пакетах былі сухая макавая саломка і экстракт з яе. Праз хвіліну ўжо абшуквалі кватэру. За газавай плітой знайшлі мясарубку, сляды прыгатавання наркотыкаў. Канфіскавана 657 грамаў экстракту, 225 грамаў сухой саломкі. Затрымалі і 4 наркаманаў.

- Мы гатавалі новы рэцэпт - "Гераін-2", - пазней скажуць яны.

Затрыманым (2 хлопцы і 2 дзяўчыны) ад 19 да 25 год. Здымалі кватэру, хаця ўсе яны мясцовыя, афіцыйна нідзе не працуюць. У вясковых бабулек скуплялі макавую саломку - па 40 тысяч кошык. Прапускалі праз мясарубку і ўжо здрабнёны прадукт прадавалі па пяць долараў за шклянку. У сталіцу вывозілі да 700 шклянак. Таксама дзеля падзаробку жадаючым "пакумарыць" уводзілі наркотык. Разавая ін'екцыя каштавала 40 тысяч.

У ходзе следства высвятляецца, колькі чалавек паспелі ўкалоць. На затрыманых узбуджаныя крымінальныя справы. "Сям'ю" разбілі па парах - двое на абследаванні ў Навінках, двое ў Жодзінскім СІЗА. Магчыма, будзе даказана ўтрыманне прытона. А гэта - да 7 гадоў пазбаўлення волі.

Ужыванне наркотыкаў на Вілейшчыне перарастае ў праблему. Некалькі месяцаў таму чацвёра мясцовых дзяўчат, студэнтак педагагічнага ўніверсітэта, курылі траўку. Адна ад перадазіроўкі трапіла ў рэанімацыю.

Старэйшы брат здаў малодшага, навучэнца ПТВ. Маўляў, абрыдла з ім праводзіць прафілактычныя размовы.

З медыкаментамі для наркаманаў праблема. Некалькі разоў на год супрацоўнікамі РАУС праводзіцца аперацыя "Допінг" - аб мэтавым выкарыстанні медпрэпаратаў (на тэрыторыі горада ёсць анкалагічны дыспансер).

Тры гады таму фельчар "хуткай дапамогі" ампулу морфію змяняў на шклянку гарэлкі. Пра таблеткі ЛСД, гераін тут ведаюць пакуль толькі па аповядах. Ды і навошта гэтыя "замежныя" сродкі, калі ёсць мак?

Летась складзена 149 пратаколаў за вырошчванне маку і каноплі. За выраб і захоўванне наркатычных сродкаў узбуджаныя 3 крымінальныя справы.

**Васіль САВІЦКІ.**

У сталіцу з кілбасой

ВАЛОЖЫН. З караваем, салам, кілбасамі дэлегацыя раёна на чале са старшынёй выканкома **Валянцінам Малішэўскім** выйшла віншаваць жыхароў Савецкага раёна сталіцы.

Свой 60-гадовы юбілей "савецкія" сустракалі пераможцамі гарадскога спаборніцтва. І як адзначыў Валянцін Малішэўскі, у тых хлебе і кілбасах Валожыншчыны нямала заслуг шэфаў - працаўнікоў Савецкага раёна.

**Таццяна ШАБЛЫКА.**

ДЗЕНЬ ВОЛІ

# На шляху да Беларусі

***25 сакавіка споўнілася 80 год з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Нацыянальна свядомая частка насельніцтва лічыць гэтае свята найбольш значным. Па вялікім рахунку, дзень 25 сакавіка мусіць быць у краіне Днём Незалежнасці або, як яго цяпер называюць, Днём Волі, бо гэта дата з жывой гісторыі.***

З ліпеня, які на рэферэндуме 1996 года прызначаны Днём Незалежнасці, на мой погляд, з'яўляецца мёртванароджаным дзіцем, бо ў гэты дзень у 1944 годзе быў вызвалены ад фашыстаў толькі Мінск. А як могуць лічыць гэты дзень святам смаргонцы, калі горад быў вызвалены толькі 4 ліпеня? Дый незалежнасць тады баранілі нашы бацькі і дзяды не непасрэдна Беларусі, а СССР.

З іншага боку, апаненты сцвярджаюць, што 25 сакавіка нельга лічыць святам, бо незалежнасць БНР абвясцілі падчас акупацыі Мінска немцамі ў 1918 годзе. Але пры гэтым яны як бы не заўважаюць, што некалькі тыдняў да той даты, 3 сакавіка, Петраградскі бальшавіцкі Савет Народных Камісараў, не спытаўшы ў беларусаў, падпісаў з немцамі ў Брэсце дагавор, згодна з якім "области, лежащие на запад от линии Рига-Двинск-Свентяны-Лида-Пружаны не будут больше подлежать государственному суверенитету России и будущую судьбу этих областей устроит Германия...". Як бачым, жывое цела Беларусі бальшавіцкай уладай было разарвана на часткі. Таму, дзеля выратавання Бацькаўшчыны, ва ўмовах у той час здраднай палітыкі Расіі, ратуючыся таксама і ад Кайзераўскай Германіі, Радай Беларускай Народнай Рэспублікі у ноч на 25 сакавіка 1918 года Беларусь была абвешчаная вольнай і незалежнай дзяржавай.

Дзякуючы таму, што БНР тады прызналі такія краіны, як Аўстрыя, Латвія, Польшча, Фінляндыя, Турцыя, Украіна, Эстонія, у далейшым Расія была вымушана стварыць БССР. І ўрэшце, у выніку тых жа падзеяў 25 сакавіка 1918 года мы маем Рэспубліку Беларусь.

**Мікола ЗВАНОК.**

ПРАФСАЮЗ ПРАТЭСТУЕ

# Селяніна абдзіраюць як ліпку

***МАЛАДЗЕЧНА. Пленум райкома прафсаюза работнікаў аграпрамкомплексу аднагалосна выказаў пратэст у сваім звароце да намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра ГАРКУНА ў сувязі з увядзеннем з 1 студзеня падаходнага падатку з калгаснікаў.***

Працаўнікі вёскі ўказваюць на жабрацкую зарплату, якая складае па калгасах раёна ў сярэднім каля аднаго мільёна 300 тысяч рублёў у месяц. Дададзім, што у калгасах Маркава, Светлы шлях, Гарадок, За ўладу Саветаў, Прагрэс, Лебедзева зарплата не выплачвалася са снежня мінулага года. Усяго па раёне запазычанасць па зарплаце перад калгаснікамі складае 8 мільярдаў рублёў.

Але і згаданы паказчык сярэднемесячнай зарабатнай платы магчымы з-за сезоннасці работ. У некаторыя ж месяцы зарплата не перавышае 300-500 тысяч рублёў. Распаўсюджаныя натуральныя нормы аплаты працы. У міжсезонне ж падаткі могуць забраць увесь заробак і людзям не застанецца сродкаў нават на хлеб.

ФОТА IREX/PROMEDIA

Ці будзе голас калгаснікаў пачуты — пакажа час.

**Мікола ГАЙДУК.**

БУДАЎНІЦТВА

# Надзея

***СМАРГОНЬ. Колькі год запар стаялі пакінутыя даўгабуды ў мікраараёне "Карані". Некалі, з увядзеннем у дзеянне філіяла Мінскага трактарнага завода і іншых буйных прадпрыемстваў на Індустрыяльным праспекце, квітнела і будаўніцтва аб'ектаў сацыяльнага прызначэння. На жаль, палітычныя і эканамічныя катаклізмы на доўгі час спынілі і заводы, і будаўніцтва.***

Апошнім часам каля напаўразбураных недабудаваных аб'ектаў зноў ажывілася дзейнасць будаўнікоў. У бліжэйшы час будаўнічы трэст бярэцца "адрэстаўраваць" закінуты двухпавярховы будынак побач з гандлёвым цэнтрам, дзе размесціцца аптэка. А потым будаўнікі возьмуцца за незавершаны дзіцячы садок, у якім мяркуецца адкрыць паліклініку, што сёння больш неабходная "Караням", чым дашкольная ўстанова. Усё ж нараджаецца сёння дзетак менеі і меней, а хварэюць значна больш.

Што да даўгабудаў камбіната харчавання і вузла сувязі, то яны пакуль будуць "закансерваваныя" да лепшых часоў, а гэта таксама ўсяляе надзею жыхарам Бульвара Надзей. Ва ўсякім выпадку, будынкі не будуць разбурацца залётнымі марадзёрамі.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

